I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Лістапад 2014

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## Шыльды па-беларуску. Як выконваюцца патрабаваньні закону на Гомельшчыне?




стар. 2

**Сярод ахвяраў ВІЧ-інфікаванай прастытуткі з Рэчыцы — 70-гадовы дзед**
стар. 6

**У Гомелі хуліганы нажом пастрыглі 24-гадовага даўгавалосага хлопца**
стар. 5

**Гомельскі рэпер Сярога прэзентаваў сінгл «50 оттенков Серого»**
стар. 4

# Шыльды па-беларуску. Як выконваюцца патрабаваньні закону на Гомельшчыне?

***Закон «Аб назвах геаграфічных аб'ектаў» існуе ў Беларусі з 2010 году. Ягоны артыкул 17 прадугледжвае норму, паводле якой назвы геаграфічным аб'ектам прысвойваюцца на беларускай мове, зь якой шляхам трансьлітарацыі перадаюцца на расейскую.***

Гэта добрая норма, бо ў адпаведнасьці зь ёй усе вулічныя паказальнікі ў беларускіх населеных пунктах павінны рабіцца па-беларуску. Павінны, — гэта, вядома, задужа моцнае слова, закон дазваляе пісаць назвы вуліц па-расейску. Але, думаю, самы заўзяты расейскі нацыяналіст не захоча, каб гомельская Гаспадарчая вуліца была нанесена на шыльду па-расейску як «Господарчая улица», згодна з патрабаваньнем беларускага заканадаўства, а не «Хозяйственная».

Я накіраваў чыноўнікам лісты з пытаньнем: ці выкарыстоўваюцца беларускамоўныя шыльды і ці правільна праводзіцца трансьлітарацыя расейскамоўных? Ці ведаюць і выкарыстоўваюць закон чыноўнікі, якія адказваюць за добраўпарадкаваньне населеных пунктаў?

Паспрабуем з гэтым разабрацца і пачнём з Гомельшчыны, самай усходняй часткі Беларусі, што мяжуе як з Расеяй, так і з Украінай.

Намесьнік старшыні Калінкавіцкага райвыканкаму Віктар Замосьцік паведамляе наступнае:

«У адпаведнасьці з артыкулам 17 Канстытуцыі Беларусі дзяржаўнымі мовамі зьяўляюцца беларуская і руская. Акрамя таго, у адпаведнасьці з артыкулам 8 закону „Аб мовах“ у Беларусі мовамі справаводзтва і дакумэнтацыі, а таксама мовамі ўзаемаадносін дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіраваньня і самакіраваньня, прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і грамадзкіх аб'яднаньняў зьяўляюцца беларуская і (або) руская мовы.




Закон не прадугледжвае вядзеньне справаводзтва, дакумэнтацыі, у тым ліку дубляваньне назваў вуліц і іншых паказальнікаў адрасоў, адначасова на дзьвюх дзяржаўных мовах».

«Сядай, Віктар, кол!», — так бы сказаў князь Ярэма Вішнявецкі. А мы проста заўважым, што чыноўнік спасылаецца на Закон аб мовах, але справа тычыцца закону «Аб назвах геаграфічных аб'ектаў», пра існаваньне якога чыноўнік, магчыма, ня ведае.

Былы старшыня Жлобінскага райвыканкаму Генадзь Суздалеў пераплюнуў свайго калегу з Калінкавіч у веданьні юрыдычных нормаў, якія ня тычацца справы. Да пералічаных Замосьцікам Канстытуцыі і закону «Аб мовах» ён дадаў яшчэ і няведама навошта Кодэкс аб адукацыі. Усе гэтыя акты, на яго думку, «даюць магчымасьць грамадзянам самім выбіраць, на якой зь дзьвюх моваў размаўляць, атрымліваць адукацыю, займацца творчасьцю і г. д. У сувязі з гэтым, шыльды з назвамі вуліц і іншыя надпісы, якія пазначаюць месцазнаходжаньне аб'ектаў, могуць быць як на рускай, так і на беларускай мовах».

Цікавыя высновы, якім бы пазайздросьціў і Кручкоў зь «Пінскай шляхты». Але, тым ня менш, закон «Аб назвах геаграфічных аб'ектаў» зноў не ўзгаданы. Адпаведна, і спадзявацца на слушную трансьлітарацыю жлобінскіх шыльдаў не выпадае. Спадзяюся, пры новым старшыні Івану Навуменку сытуацыя з шыльдамі зьменіцца ў лепшы бок — пра гэта мы даведаемся неўзабаве.

Намесьніца старшыні Кармянскага райвыканкаму Тацяна Шэхцер, здаецца, пра закон «Аб назвах геаграфічных аб'ектаў» ведае, хоць магчыма ня ведае пра закон «Аб зваротах грамад-

зян і юрыдычных асоб», паводле якога адказ на зварот павінен давацца на мове звароту. У маім выпадку зварот быў па-беларуску, але адказ быў падрыхтаваны на расейскай мове. Вось што паведамляецца ў адказе:

«Кормянский районный исполнительный комитет благодарит Вас за предложение. Мы с Вами согласны».

Ну, калі згодныя, то я ўжо гатовы дараваць і расейскамоўны адказ — ня часта сустрэнеш пісьменнага і адэкватнага чыноўніка.

Далей Шэхцер працягвае:

«Все заинтересованные службы ознакомлены с Вашим предложением. Работы по замене уличных указателей будут производиться постепенно при проведении ремонтных работ и наличии финансовых средств».

Гэта ўсё, вядома, правільна і абгрунтавана, але калі закон «Аб назвах геаграфічных аб’ектаў» прадугледжвае напісаньне вулічных шыльдаў або па-беларуску, або ў трансьлітарацыі зь беларускай, — то ці законнае існаваньне старых расейскамоўных шыльдаў, дзе зь беларускай даецца пераклад? Тэрмінаў замены незаконных шыльдаў закон не вызначае. Але закон і ня кажа, што яны маюць права на існаваньне і могуць быць замененыя пры правядзеньні рамонтных працаў і фінансавых магчымасьцяў для гэтых працаў. Так гэтая замена шыльдаў на дзесяцігодзьдзі можа расьцягнуцца, бо мэтал — ён і ў Беларусі мэтал: зношваецца мала і якасьцяў сваіх ня траціць вельмі доўга.

Дык калі закон не працуе — ці гэта закон? Чыноўнікі, здаецца, лічаць, што калі няма выразнай санкцыі за невыкананьне, закон можна і не выконваць або выконваць у форме «італьянскага страйку».

Калі ў раённых цэнтрах сытуацыя з выкананьнем закону «Аб назвах геаграфічных аб’ектаў» ня вельмі вясёлая, то, магчыма, яна лепшая ў раёнах абласнога цэнтру?

У адміністрацыі Савецкага раёну Гомеля пра закон ведаюць, як ведаюць і пра падзаконныя акты. Акрамя іншага, першы намесьнік кіраўніка адміністрацыі Савецкага раёну Сяргей Кадола паведаміў наступнае:

«У адпаведнасьці з нарматыўнымі актамі перайменаваньне вуліц, а таксама ўзгадненьне адзінага ўзору эскізу вулічных паказальнікаў знаходзяцца ў вядзеньні тапанімічнай камісіі, створанай у Гомельскім гарадзкім выканаўчым камітэце (рашэньне Гомельскага гарвыканкама ад 1999 года № 194).

Зыходзячы з вышэй сказанага, рэкамэндуем накіраваць Вашы прапановы па афармленьні вулічных паказальнікаў у гарадзкую тапанімічную камісію.

Дзякуем Вам за актыўную жыцьцёвую пазыцыю і неабыякавыя адносіны да афармленьня інфармацыйнай прасторы нашага горада».

Мяркуючы па адказе, у адміністрацыі Савецкага раёну за заканадаўствам сочаць, але рэалізоўваць яго не сьпяшаюцца. Дый зыходзячы з сытуацыі, якая склалася ў Гомелі з шыльдамі, тапанімічная камісія з 1999 году так і ня вызначылася з адзіным эскізам вулічных паказальнікаў.

У адных выпадках патрабаваньні закону «Аб назвах геаграфічных аб’ектаў» у Гомелі выконваюцца, і расейскамоўныя шыльды зьмяняюцца на беларускамоўныя.

У іншых выпадках патрабаваньні закону ігнаруюцца, замест беларускамоўных шыльдаў вешаюцца новыя расейскамоўныя ў перакладзе зь беларускай.

А бываюць наагул выпадкі, калі ўжо беларускамоўныя шыльды трансьлітаруюць з расейскай мовы на беларускую, тым самым ня толькі парушаючы закон, але і легалізуючы «трасянку».

Бываюць і проста шыльды з памылкамі.

Нават у добрых прыкладах вулічных шыльдаў досыць часта сустракаецца тая хіба, што зь беларускай мовы на расейскую робіцца пераклад, а не трансьлітарацыя.

І гэта пры тым, што сытуацыя з шыльдамі ў Гомелі нашмат лепшая, чым у раённых цэнтрах вобласьці.

Я скарыстаўся прапановай адміністрацыі і зьвярнуўся ў Гомельскі гарадзкі выканаўчы камітэт.

Намесьніца Гомельскага гарвыканкаму Аксана Рудзянок паведаміла:

«Ваша прапанова выраб-ляць новыя паказальнікі па-беларуску пры правядзеньні прац па замене старых шыльд з назвамі вуліц на новыя будзе разгледжана на чарговым паседжаньні тапанімічнай камісіі Гомельскага гарвыканкаму.

Па выніках рашэньня камісіі адказ будзе дадзены дадаткова».

Я запасься папкорнам, але адказ доўга чакаць мяне не прымусіў.

Згаданая Ала Рудзянок празь месяц паведаміла:

«Дадзенае пытаньне будзе разглядацца дадаткова пры замене аншлагаў у выпадку наяўнасьці фінансаваньня ў бюджэце ў 2014 годзе».

Як бачым, зноў мы вяртаемся да таго, што закон «Аб назвах геаграфічных аб’ектаў» не ўспрымаецца ўсур’ёз як закон, і яго выкананьне залежыць ад зьбегу абставін. У дадзеным выпадку — ад наяўнасьці фінансаваньня.

2014 год сканчаецца, але сытуацыя з шыльдамі ў Гомелі

# Шыльды па-беларуску. Як выконваюцца патрабаваньні закону на Гомельшчыне?. Працяг

не палепшылася. Больш за тое, зьяўляюцца новыя расейскамоўныя шыльды, дзе расейскамоўныя назвы не трансьлітараваныя зь беларускай, а перакладзеныя.

Але, магчыма, лепшая сытуацыя на абласным узроўні?

Начальніца галоўнага ўпраўленьня ідэалягічнай працы, культуры і па справах моладзі Гомельскага аблвыканкаму Ірына Даўгала паведаміла:

«Па даручэнні кіраўніцтва Гомельскага аблвыканкаму Ваш зварот разгледжаны галоўным упраўленнем ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі аблвыканкама сумесна з галоўным упраўленнем юстыцыі аблвыканкама і гаррайвыканкамамі вобласці».

Нічога ня скажаш — вялікая нарада атрымалася, столькі вучоных мужоў і жанок сабраліся ў адным месцы, каб шыльдачкі абмеркаваць. Але які вынік? Вынік такі, што ў адказе былі згаданыя толькі Канстытуцыя і закон «Аб мовах», а пра закон «Аб назвах геаграфічных аб'ектаў» ні слова. Нават упраўленьне юстыцыі не дапамагло яго адшукаць, што ўжо казаць пра ідэолягаў і кіраўнікоў раёнаў.

Таму і лягічным было рэзюмэ ідэоляга Даўгалы: «Парадак выкарыстаньня дзяржаўных моў непасрэдна пры афармленьні шыльд з назвамі вуліц і іншымі геаграфічнымі найменьнямі законам ня вызначаны».

Такі вось юрыдычны нігілізм, хоць у законе «Аб назвах геаграфічных аб'ектаў», як мы ведаем, усё гэта прапісана.

Але напрыканцы вернемся ў раёны, а дакладней — у Акцябрскі раён, праслаўлены Ксюшай Дзягелькай і недарэчнай назвай, якая засталася яму ў спадчыну з савецкіх часоў.

Намесьнік старшыні райвыканкаму Ігар Угрын нормы закону «Аб назвах геаграфічных аб'ектаў» ведае (а як з такой назвай раёну ня ведаць!) і паведамляе:

«Нормай закону ўсталявана трансьлітарацыя геаграфічных назваў зь беларускай мовы на рускую, а не прамы пераклад».

Бінго! Тое, над чым раіліся ідэолягі, юрысты і старшыні раёнаў і гарадоў вобласьці, зьдзейсьнілася — быў дадзены нарэшце правільны адказ! І чаму толькі Ігар Угрын не ў аблвыканкаме, ці хоць бы не намесьнік, а старшыня Акцябрскага райвыканкаму?...

Толькі вось адно, як той казаў, пытаньнечка ўзьнікае — калі ў адпаведнасьці з законам трансьлітарацыя назвы геаграфічнага аб'екту робіцца зь беларускамоўнага варыянту, то чаму Ксюша Дзягелька і Ігар Угрын жывуць у Акцябрскім раёне, а не ў Кастрычніцкім?

Але гэта ўжо іншая гісторыя. А наступным разам мы пагаворым з вамі пра тое, як адлюстраваная беларуская мова на вулічных шыльдах іншых беларускіх рэгіёнаў.

*Ігар Случак*




# Гомельскі рэпер Сярога прэзентаваў сінгл «50 оттенков Серого»

***Рэпер, ураджэнец Гомеля, Сярога (Seryoga) прэзентаваў на Youtube песню «50 оттенков Серого».***

На 9 снежня прызначаны рэліз аднайменнага альбома-споведзі.

Сяргей Пархоменка нарадзіўся ў 1976 г. у Гомелі, стаў знакамітым на прасторах СНД у 2004 г. пасля хіту «Чорны бумер». З 2007 г. жыве ў Кіеве і Маскве, з 2010 г. быў суддзёй украінскага шоў «X factor» ды іншых шоў на ўкраінскіх каналах.

*"Наша Ніва"*

# Жанчына-бомж у Гомелі рабавала і забівала гаспадароў кватэр, у якіх жыла

***Пракуратура Гомельскай вобласці накіравала ў суд крымінальную справу паводле абвінавачання 45-гадовай жанчыны ва ўчыненні замаху на забойства, наўмыснага забойства і іншых цяжкіх злачынстваў.***

Як паведаміў старшы памочнік пракурора Гомельскай вобласці Надзея Самусева, абвінавачаная нідзе не працуе, не мае пэўнага месца жыхарства, раней неаднаразова судзімая. Спачатку яна завалодала банкаўскай карткай, што належыць знаёмай, якая часова пасяліла яе ў сваёй кватэры, і, даведаўшыся пін-код, у лютым 2014 года неаднаразова выкрадала грошы праз банкаматы Гомеля. Яна нанесла шкоду пацярпелай на 1,7 млн. рублёў.

На рахунку абвінавачанай і іншыя злачынствы, у тым ліку асабліва цяжкія. Так, у кватэры жыхара Гомеля пасля сумеснага распівання спіртнога яна нанесла яму раны кухонным нажом, адкрыла гарэлкі газавай пліты, каб выклікаць выбух і пажар, замкнула ўваходныя дзверы кватэры звонку на замок і ўцякла, выкраўшы 1 млн. рублёў.

Мужчына, калі апрытомнеў, паспеў закрыць гарэлкі пліты і праветрыў памяшканне, прадухіліўшы выбух газу.

Праз некалькі дзён жанчына з мэтай завалодання маёмасцю ўчыніла наўмыснае забойства яшчэ аднаго мужчыны ў яго кватэры, нанесла яму колюча-рэжучым прадметам мноства ўдараў у жыццёва важныя органы, ад чаго той памёр на месцы здарэння.

«Наносячы шматлікія ўдары нажом, абвінавачаная не магла не ўсведамляць, што дастаўляе пацярпеламу асаблівыя пакуты. Пасля ўчынення забойства яна выкрала і вынесла з кватэры імпартны тэлевізар коштам звыш 4 млн. рублёў», — зазначыла Самусева.

Раней, у 2011 годзе, за ўчыненне ў гэтай жа кватэры рабавання з прымяненнем гвалту, не небяспечнага для жыцця ці здароўя пацярпелага, жанчына была асуджаная на тры гады пазбаўлення волі.

У выніку расследавання крымінальнай справы жанчыне выстаўленае абвінавачванне ў крадзяжы грошай шляхам несанкцыянаванага доступу ў камп`ютарныя сістэмы банкаматаў, а таксама ў замаху на наўмыснае забойства агульнанебяспечным спосабам, наўмыснае знішчэнне ці пашкоджанне маёмасці агульнанебяспечным спосабам, тайным выкраданні грашовых сродкаў і наўмысным супрацьпраўным пазбаўленні жыцця з асаблівай жорсткасцю, звязаным з разбоем.

*Алена Германовіч, БелаПАН*

# У Гомелі хуліганы нажом пастрыглі 24-гадовага даўгавалосага хлопца

***Гомельскі гарадскі аддзел Следчага камітэта расследуе справу па ч. 3 арт. 339 КК (асабліва злоснае хуліганства), заведзеную ў дачыненні да двух жыхароў абласнога цэнтра.***

Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава, увечары 17 лістапада жыхар Гомеля 1990 года нараджэння вяртаўся дадому і стаў ахвярай злачынных дзеянняў землякоў з-за доўгіх валасоў.

«Насустрач хлопцу ішлі незнаёмыя яму мужчыны, адзін з якіх абазваў яго патлатым і спытаў у спадарожнікаў, ці ёсць у каго нож.

Яго таварыш працягнуў яму нож. Падазраваны паставіў хлопца на калені і абрэзаў яму валасы нажом», — сказала Марыя Крываногава.

Пацярпелы выклікаў міліцыю. Нарад прачасалі мікраraён Сельмаш, дзе адбылося злачынства, і аператыўна затрымаў падазраваных. У канцы мінулага тыдня ім было прад'яўленае абвінавачванне.

Абвінавачаныя — жыхары Гомеля 1982 і 1985 года нараджэння. Адзін з іх працуе зваршчыкам, другі - беспрацоўны. Яны змешчаныя ў СІЗА.

*БелаПАН*

# Сярод ахвяраў ВІЧ-інфікаванай прастытуткі з Рэчыцы — 70-гадовы дзед

***Следчы камітэт апублікаваў падрабязнасці крымінальнай справы, падазраванай па якім праходзіць 25-гадовая жыхарка Рэчыцы.***

Нагадаем, што дзяўчына, ведаючы пра тое, што з'яўляецца носьбітам ВІЧ, тым не менш, працягвала жыць палавым жыццём, наўмысна заражаючы мужчын. Такім чынам, па яе словах, яна помсціла прадстаўнікам моцнага полу.

Пацярпелымі па справе праходзяць чатыры чалавекі. Гэта жыхары Рэчыцы 1985, 1964, 1951 і 1944 гадоў нараджэння.

У кожнага з нас у жыцці зьявіцца такі чалавек, якога давядзецца запомніць назаўжды.



25-гадовая жанчына неаднаразова прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасці за прастытуцыю і стаяла на ўліку ў нарколага. Расследаванне па справе працягваецца, падазраваная знаходзіцца пад вартай.

Следства не выключае, што кола асоб, наўмысна пастаўленых у небяспеку заражэння смяротна небяспечным вірусам, можа быць пашыранае.

*Паводле ods-gomel.org*

# Педафіл у Гомелі «завабіў» 10-гадовых дзяцей адсутнасцю флікераў

***У судзе Гомельскага раёна 14 лістапада вынесены прысуд 30-гадоваму мясцоваму жыхару, які абвінавачваецца на падставе ч. 3 арт. 167 КК (гвалтоўныя дзеянні сексуальнага характару, учыненыя адносна заведама малалетняга).***

Педафіл прысуджаны да 11 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Матэрыяльнай кампенсацыі маральнага ўрону законныя прадстаўнікі пацярпелых не патрабавалі

Прысуд пакуль не набыў моц.

Злачынства было ўчынена 13 студзеня, на Стары новы год. Двое 10-гадовых хлапчукоў вечарам гулялі па вуліцы, калі да іх пад'ехаў на машыне абвінавачваны.

Мужчына ў камуфляванай куртцы, які выйшаў з машыны, назваўся супрацоўнікам міліцыі і запытаў у дзяцей, чаму ў іх няма флікераў.

Затым сказаў, што неабходна праехаць у аддзел міліцыі для складання пратакола і штрафу. Хлопчыкі селі ў машыну да незнаёмца, які павёз іх у бок лесу і там учыніў гвалтоўныя дзеянні сексуальнага характару.

Бацькі тым часам занепакоіліся, тэлефанавалі дзецям на мабільныя тэлефоны, але званкі абрываліся. Калі дзеці вярнуліся і расказалі бацькам пра тое, што здарылася, тыя адразу ж звярнуліся ў міліцыю. У эфір перададзены прыкметы меркаванага злачынца. Усе нарады міліцыі Гомеля і Гомельскай вобласці былі аператыўна праінфармаваныя пра гэта.

Супрацоўніку міліцыі прапаршчыку Аляксандру Ярохаву прыкметы мужчыны падаліся знаёмымі — яны нагадалі яму мужчыну, які працаваў недалёка ад яго дома. Міліцыянер перадаў інфармацыю пра знаходжанне меркаванага злачынца камандзіру роты, і неўзабаве зламыснік быў затрыманы.

*БелаПАН*



# На волю выйшаў злодзей у законе Саша Кушнер

***6 лістапада, адседзеўшы ад званка да званка, на волю выйшаў гамяльчанін Аляксандр Кушнер, больш вядомы ў крымінальным свеце як злодзей у законе пад мянушкамі Саша Кушнер і Саша Беларус. Пакаранне ён адбываў у Мазыры ў папраўчай калоніі строгага рэжыму ВК-20.***

Нагадаем, што Аляксандр Кушняроў з сваіх пражытых 48 гадоў ледзь не палову правёў у месцах пазбаўлення волі. У «ліхіх 90-х» за двайное забойства, учыненае ў складзе банды, ён быў прысуджаны да смяротнага пакарання, аднак расстрэл быў заменены на 15-гадовы тэрмін. Пасля вызвалення Кушнер знаходзіўся пад наглядам міліцыі, але ў снежні 2010 года самавольна пакінуў Беларусь, за што быў абвешчаны ў міждзяржаўны вышук.

Як пазней высветлілася, ён з'ехаў у Маскву і далучыўся да клана аднаго з самых уплывовых крымінальных аўтарытэтаў Аслана Усаяна па мянушцы Дзед Хасан.

У траўні 2011 года Дзед Хасан «каранаваў» пяць новых злодзеяў у законе, у ліку якіх быў і Аляксандр Кушняроў — яго Дзед Хасан прызначыў «глядзячым» за Беларуссю.

Аднак на свабодзе ў новым статусе Саша Беларус прабыў менш за тыдзень. 18 мая яго затрымалі апeратыўнікі ў Раменскім раёне Падмаскоўя. У яго было знойдзена і канфіскавана 3,24 г гераіну. Новаспечанаму злодзею ў законе свяціў тэрмін ад 3 да 10 гадоў, аднак суд прысудзіў яго за ўсё да 5 месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Пакаранне беларускі злодзей у законе адбываў у СІЗА горада Кірава і вызваліўся ў снежні 2011 года.

У лютым 2012 года беларускі аўтарытэт зноў быў затрыманы расійскімі паліцэйскімі, але ўжо за парушэнне рэжыму знаходжання замежных грамадзян на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі. Яго абавязалі добраахвотна пакінуць Расію, але ён праігнараваў судовае рашэнне. 6 лістапада 2012 паліцэйскія затрымалі Кушнярова ў Маскве каля метро «Беларуская» і ў той жа дзень дэпартавалі на радзіму.




Крымінальны аўтарытэт абвінавачваўся ў здзяйсненні злачынства па арт. 422 КК РБ («Ухіленне ад прэвентыўнага нагляду»). 15 сакавіка 2013 яго прысудзілі да двух гадоў пазбаўлення волі.

За два мінулыя гады, пакуль Аляксандр Кушняроў сядзеў, у прафесійным крымінальным свеце адбыліся істотныя змены ў расстаноўцы сіл.

Няма больш «хроснага бацькі» Сашы Кушнера Дзеда Хасана: яго забілі 16 студзеня 2013 года ў Маскве. Прыхільнікі дзедавага клана пачалі разборкі і сталі высвятляць «хто самы галоўны».

«Ідэйныя» праціўнікі Кушнера беларускія «законнікі» Аляксандр Цімашэнка і Дзмітрый Галееў, яны ж — Цімоха і Галей, у снежні 2012 года выступілі ініцыятарамі «каранацыі» чатырох новых злодзеяў у законе. На сходцы ў Дубаі імі сталі Саша «Медзведзяня» Гомельскі, Алег Слуцкі (Муму), Паштэт Мінскі і Руслан «Лебедз»ь Барысаўскі. І гэтыя «браты», можна сказаць асіпрацелі. Цімоху застрэлілі 31 мая 2013 года ў Падмаскоўі, а Галей рашэннем суда Заводскага раёна Мінска ў сакавіку бягучага года атрымаў 11 гадоў строга рэжыму за вымагальніцтва. Пазней год яму «скасцілі» па амністыі, пакаранне ён адбывае ў Горках.

З «дубайской чацвёркі» на свабодзе застаецца адзін Руслан Лебедзь. Кажуць, ён зрабіў важ па Украіне, а затым перабраўся Заходнюю Еўропу. 40-гадовы Алег Герасімовіч, ён жа Муму, быў прысуджаны 21 ліпеня бягучага года Слуцкім раённым судом Мінскай вобласці да двух гадоў пазбаўлення волі за ўхіленне ад прэвентыўнага нагляду. Медзведзяня чакае суда ў Гомелі, а Паштэт знаходзіцца ў Пскове, дзе яму пагражае крымінальнае пакаранне за незаконнае знаходжанне на тэрыторыі Расіі.

На думку экспертаў расійскага агенцтва «Прайм Крайм», вызвалены Саша Кушнер «мае ўсе шанцы стаць аднаасобным крымінальным лідарам Беларусі, якім яго ў свой час і задумваў Дзед Хасан».

Сумнеўна, што такі шанец злодзею ў законе дадуць беларус-

## На волю выйшаў злодзей у законе Саша Кушнер. Працяг

кія праваахоўнікі. Па некаторых звестках, незадоўга да вызвалення наўпрост у калоніі супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю правялі з «законнікам» так званую прафілактычную гутарку. Працэй кажучы, папярэдзілі…

***

У кастрычніку 2001 года Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што яшчэ пяць гадоў таму «праз пэўных жулікаў» папярэдзіў крымінальных лідараў: «Не дай Бог недзе вы створыце абстаноўку крымінальную, я вам паадрываю ўсім галовы». І дадаў: «Быў выпадак, калі яны няправільна сябе павялі. Памятаеце вы гэтых шчаўлікаў і іншых. Дзе яны цяпер? Таму ў краіне парадак і ўсе задаволеныя». Злодзей у законе Шчаўлік, нагадаем, прапаў без вестак у Мінску ў снежні 1997 года.

Праз дзесяць гадоў, у красавіку 2011 года, у выступе з пасланнем беларускаму народу і парламенту Лукашэнка зноў успомніў пра бандытаў: «Я вам шчыра распавёў, што яшчэ 10 гадоў таму назад, што групоўкі, якія ў свой час з савецкіх штонікаў выраслі, сувязі ў іх былі вельмі цесныя з Масквой, мы іх вельмі хутка прыбралі да парадку. Той, хто не падпарадкаваўся, іх ужо і косткі згнілі. У нас не можа быць на крымінальнай аснове гэтых разборак».

*Віктар Федаровіч, naviny.by*

## Слесара, які страляў па трактары, аштрафавалі

***Завершана справа слесара ААТ «Парэчча-Арэса», які з пнеўматычнага пісталета стрэліў у трактар.***

Раніцай 12 кастрычніка жыхар вёскі Парэчча Акцябрскага раёна на спадарожным транспарце накіраваўся на працу ў вёску Ляскавічы. Па дарозе вясковец набыў у кіроўцы, які яго падвозіў, пнеўматычны пісталет. А калі прыехаў на працу, справы для яго і знайшлося — адпусцілі дамоў. Але слесар перад вяртанне выпіў з напарнікам бутэльку гарэлкі. А тады разам пайшлі на дарогу лавіць спадарожную машыну.

«Каля павароту на вёску Рэпін да нецвярозай кампаніі падышоў вясковы пастух. 28-гадовы абвінавачаны, дэманструючы п'яную зухаватасць, некалькі разоў стрэліў з пісталета па дарожных знаках. Не патрапіўшы, стрэліў у лабавое шкло трактара.

У выніку шкло патрэскалася і абсыпалася. Трактарыст не пацярпеў.

Нецвярозы хуліган быў затрыманы супрацоўнікамі Акцябрскага РАУС у парку вёскі Харомцы», — паведамілі ва ўпраўленні Следчага камітэта па Гомельскай вобласці.

Стралок падчас следства прызнаў віну і раскаяўся. Кампенсаваў нанесеную шкоду.

Суд прызначыў яму пакаранне ў выглядзе штрафу — 7,5 мільёнаў рублёў.

*"Наша Ніва"*

## Гомельскія мытнікі затрымалі малдаваніна з 10 кілаграмамі марыхуаны

***Як паведамляе прэс-служба Дзяржаўнага мытнага камітэта, 24 лістапада ў пункце пропуску «Новая Гута» ў выніку зладжаных дзеянняў аператыўнікаў быў затрыманы 35-гадовы грамадзянін Малдовы.***

спецыяльна выробленых тайніках яго аўтамабіля «Сітраен» было знойдзена звыш 10 кілаграмаў рэчыва расліннага паходжання шэра-зялёнага колеру, па знешніх прыкметах падобнага на наркатычнае рэчыва марыхуану.

Экспертыза, праведзеная спецыялістамі ўпраўлення Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз па Гомельскай вобласці, пацвердзіла меркаванні аператыўных супрацоўнікаў.

Грамадзянін Малдовы затрыманы і змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання. Распачатая справа паводле прыкмет злачынства, прадугледжанага ч. 2 арт. 228 КК (кантрабанда).

*БелаПАН*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Лістапад 2014»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя “Гомельскія Навінкі 2013”

Надрукавана на папяровай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinki.com
***facebook.com:*** spravavodstva
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
Наш ***сайт***: gnavinki.com

M&S MEDIA